


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 8 (21) ЖНІВЕНЬ 2003 г.


# 22 жніўня – Дзень шанавання цудадзейнага абраза Маці Божай Браслаўскай



Мы – дзеці Твае,
Найсвяцейшая Панна Марыя.
Наш Браслаўскі край
Сваім Матчыным вокам акінь.
Мы просім Цябе
Да збаўлення дарогу адкрый нам
Вытокам новай чысціні.
Над сінім прасторам
Хай ясна Твой воблік іскрыцца,
Нас ад чорнай бяды барані.
Мы грэшныя ўсе,
Заслужылі на гнеў Твайго Сына.
І што нам рабіць –
На каленях стаім прад Табой,
Ахвяру нясём,
І да Маці ўзываем адзінай:
Меч Боскі адкінь,
Падары нам душэўны спакой.
Мы – дзеці Твае,
Найсвяцейшая Панна Марыя,
Наш Браслаўскі край
Сваім Матчыным вокам акінь.
Мы просім Цябе
Да збаўлення дарогу адкрый нам,
Вядзі ў вечны рай,
У пакутах зямных не пакінь.

Т.Крумплеўская

# ВЕСТКІ

Сябры турыстычнага клуба "Эдельвейс", які дзейнічае пры Браслаўскай гімназіі пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі Вячаслава Кропа, здзейснілі велавандроўку па Беларусі. Вандроўка доўжылася 20 дзён, за гэты час велатурыстам удалося праехаць больш за 2 тысячы кіламетраў па тэрыторыі ўсіх абласцей Беларусі, наведаць самыя славутыя мясціны Бацькаўшчыны. Веламарафон і стартаваў і фінішаваў у Браславе.



24 жніўня Браслаўскае музейнае аб'яднанне праводзіла Свята рамёстваў, якое адбываецца ўжо ў другі раз. У гэтым годзе тэмай свята сталі рамёствы і заняткі жыхароў Браслаўшчыны ў раннім сярэднявеччы. Свята праходзіла на пляцоўцы Музея традыцыйнай культуры. Сябры клуба жывой археалогіі прадэманстравалі абрад здабывання "жывога" агню, ад якога запалілі вогнішча з ачагом. На ачагу гаспадыні рыхтавалі даўнія стравы. Госці маглі пакаштаваць гэтыя стравы, паназіраць за працай майстроў, якія паказвалі спосабы даўняга пісьменства, разьбярства, ганчарства, ткацтва, пляцення. Былі паказаны ўзоры касцюмаў, развучваліся старажытныя танцы. Перад гледачамі выступаў гурт сярэднявечнай музыкі з Мінска "Стары Ольса". У Браславе становіцца ўсё больш прыхільнікаў іх творчасці.





Увесь час на свяце панавала цеплыня, сардэчная атмасфера, якая бадай нікога не пакідала абыякавым.

*Некалькі гадоў у Браславе дзейнічае санктуарый Маці Божай Браслаўскай, Валадаркі Азёраў. Цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай стаў лічыцца святыняй не толькі католікаў Браслаўшчыны, але і ўсёй Віцебскай дыяцэзіі (епархіі). Пакланіцца святыні прыязджаюць вернікі з розных куткоў Беларусі. Дзень 22 жніўня ўнесены ў каталіцкі каляндар як дзень шанавання цудадзейнага абраза. У Браславе праводзяцца вялікія ўрачыстасці, якія распачынаюцца начным чуваннем у касцеле. На спецыяльна ўзведзенай і абсталяванай пляцоўцы каля храма адбываюцца набажэнствы. З кожным годам колькасць удзельнікаў ўрачыстасцей павялічваецца. У гэтым годзе гасцямі свята былі біскупы з Віцебска і Гродна, прадстаўнікі каталіцкай іерархіі, дзесяткі ксяндзоў, супрацоўнікі амбасадаў Вялікабрытаніі, Польшчы, Літвы, Славакіі. Цудоўнае надвор'е, яркія святочныя строі, нястрыманыя фарбы кветак, узнёслыя малітвы і спевы, прасветленыя твары вернікаў – усё было звернута да Уладаркі Азёраў, патронкі блакітнавокага краю.*

*Мы з'яўляемся сведкамі адраджэння культа Маці божай Браслаўскай, які існаваў у сярэднявеччы. Вядома, што абраз Маці Божай Браслаўскай паходзіць з Браслаўскага манастыра, што размяшчаўся на востраве возера Несціш каля в.Шавуры. Манастыр дзейнічаў у XV–XIX стст. – спачатку быў праваслаўным, а з XVII ст. уніяцкім. Манастыр быў невялікі, у першую чаргу ён славіўся абразом Маці Божай. Раз на год, на ўрачыстыя набажэнствы, перад цудадзейным абразом збіраўся велізарны натоўп вернікаў. Набажэнствы праводзіліся не на востраве, а на полі паўвострава, размешчанага насупраць. Захавалася друкаванае казанне на адным з такіх фэстаў (1781 г.) тагачаснага абата манастыра Геранімa Нярэзія (Kazanie w dziec uroczysty Najswiktszej Maryi Panny w niebowzikcia przy cudownem obrazie w Monastyrze Bras iawskim...). Асобнік выдання захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У XIX ст. – хутчэй за ўсё ў Вільні – быў выкананы малюнак цудадзейнага манастырскага абраза. Дарэчы, пры абследванні гэтага месца было знойдзена больш за 250 манет XVI–XIX стст.*

*У 1834 г. Манастыр зачынілі. Ёсць паданні, што перад гэтым згарэлі ўсе будынкі на востраве, аднак цудадзейны абраз ацалеў. Дакладна невядома, як святыня трапіла ў Браслаўскі касцел, на конт гэтага таксама існуюць паданні. Даследчыкі ўстанавілі, што абраз, які сення можна ўбачыць у касцеле, з'яўляецца копіяй пач. XX ст. з больш старадаўняга арыгінала. Лёс першапачатковай святыні пакуль невядомы.*

*Найбольш важна тое, якую сілу выпраменьвае святыня, якую веру і надзею абуджае яна ў сэрцах людзей. Як ніколі, тысячам вернікаў у гэтыя цяжкія часы патрэбна апека і ласка Маці Божай Браслаўскай, Валадаркі Азёраў. Людзі прыходзяць і будуць прыходзіць дзеля гэтага ў Браслаўскі санктуарый.*

## Пра цудадзейны абраз з вострава Манастыр

*Казалі, што манастыр на востраве Несціш загарэўся ад маланкі. Усе будынкі на востраве агонь чыста паліпчыў. Праз некалькі дзён на суседнім невялікім востраве нечакана з'явіўся абраз Маткі Боскай, які быў галоўнай святыняй манастыра. Абраз вырашылі перанесці ў браслаўскі касцёл. Спачатку нічога з гэтага не выходзіла — змяшчалі абраз у алтары, а калі раніцой адчынялі касцёл, яго там не было. Кожны раз абраз знаходзілі на востраве. Што толькі не рабілі наладжвалі ўрачыстыя хады, абраз неслі на руках і дзяўчыны, і малыя дзяўчынкі, і хлопчыкі. Ніяк не маглі даць рады. Потым нехта параіў, каб абраз даручылі занесці злодзеям. Прывялі з турмы некалькі злачынцаў, якія ў грахах пакаяліся і зрабіліся шчырымі веруючымі. Тыя аднеслі абраз у Браслаў і з той пары ён увесь час знаходзіцца ў касцёле.*

*А яшчэ людзі прыкмецілі, што ў час вялікіх святаў, калі адначасова звоняць званы ў Браславе і Слабодцы, пад вадой глуха адгукаюцца манастырскія званы, трэба толькі добра прыслухацца.*

## Пра манастыр на востраве

*У той дзень, калі манастыр згарэў, сабралася на полі каля вострава шмат людзей — на вялікі фэст. Калі натоўп вялікі, заўсёды бывае шумна. Ніхто неяк не заўважыў, што нацягнулася вялікая хмара. Ніхто не пачуў грому, не ўбачыў маланкі, толькі ўсе раптам азірнуліся, калі на востраве будынкі загарэліся як свечка. Не паспелі нічога зрабіць , а полымя ўсё паніштчыла на востраве.*

*Пазней ужо казалі, што перад святым фэстам прыйшлі да манастыра жабракі у такія дні ім нямала перападала. Манахі, каб манастыру болей ахвяраванняў дасталося, заперлі жабракоў у падзямелле. Напэўна жабракі выклікалі праклён на манастыр.*

*Ад пажару ацалеў толькі цудадзейны абраз Маці Божай. Па рознаму людзі казалі. Нібыта абраз не згарэў у полымі і сам з'явіўся на Святым востраве. Казалі таксама, што падчас фэста абраз абносілі сярод людзей і таму ён ацалеў.*

## З казання архімандрыта Браслаўскага манастыра Гераніма Нярэзія пры цудадзейным абразе Маці Божай. 1781 г.

...У нас застаецца надзея, што Прачыстая Дзева Марыя, праз лучнасць, якую яна мела жывучы сярод нас, праз тую літасць, з якой адносіцца яна да роду чалавечага, не скарыстае свайго ўзвышэння ні на што іншае, як толькі на дапамогу нам. Яе Мацярынская Душа ніколі не адступала ад нас, даруючы нам свае ласкі. І хаця сэрца Яе перанесена на Неба, адтуль яна можа лепей убачыць ўсе патрэбы нашыя, там яна хутчэй можа памаліцца за нас перад угневаным Усявышнім. Ад нас жа Яна хоча толькі адной узнагароды — адданасці Ей, каб мы, жадаючы Яе, як Каралеву ў Небе, памяталі, што Яна, як кахаючая Маці, застаецца сярод нас на зямлі. У гэтым уласна сам пераканана Св. Бернард. Да ўсіх астатніх узывае: у якім бы ты не быў становішчы, якая не ўзнікла патрэба, ці няшчасці ўсім цяжарам сваім зваліліся, ці непрыяцеляў зграі з усіх бакоў апанавалі, ці якія спакусы перашкаджаюць унутранаму спакою, звяртайся толькі да Марыі: Voka Mariam. Калі цябе спакушаюць розныя сумненні, або мноства нечысці ўстрашае, ці суровасць Кары Божай у роспач уводзіць. Cogita Mariam. Адным словам: пры ўсіх здарэннях і няшчасцях, пакутах і беднасці: Cogita Mariam, Voka Mariam. Працягнуць нам сваю выратавальную руку ва ўсіх нашых патрэбах і прыцясненнях — гэта галоўная справа Яе пасрэдніцтва паміж Богам і людзьмі.

Дзівіліся мы неаднойчы, задумваліся над тым чаму так бывае, што калі на іншых нападае немач, сціскаюць хваробы, мы застаемся здаровымі, калі іншых сушаць недахопы, іншых душаць заразы, іншых пошасць знішчае, нас гэта не кранае. Таксама, калі адным выпадае неўраджай, у другіх пажар дашчэнту нішчыць маёмасць, мы застаемся шчаслівымі. Адкуль гэта? Узнімем свае вочы на трон пасрэдніцтва Марыі і ўбачым Яе Мацярынскую правую руку, якая нас пры падзенні падтрымлівае, ад непрыяцеля засцерагае, ад няшчасцяў засланяе, справядлівую помсту і кару Усявышнягя стрымлівае, засланяе нас поўным літасці ўлоннем.

З гэтай прычыны Св. Бернард набраўся смеласці ўсім дазваляць устрымацца ад Яе ўслаўлення, калі хто ў сваіх патрэбах ніякай не спазнаў дапамогі: Sileat tuam mifepicordiam, si quis est, qui Te invocatam fuis in necefitatibus fibi meninerit defuiffe і такім чынам дае магчымасць спазнаць, што няма ва ўсім Хрысціянстве такога чалавека, які і ў сваім жыцці не паспытаў наступстваў пасрэдніцтва Марыі паміж сабой і Богам, хаця вельмі часта ён гэтага не адчуў і аб гэтым не даведаўся. Насамрэч. Хто ў бурлівым моры стрымлівае хвалі? Хто ў час смяротнай бойкі адводзіць у бок стрэлы і ядры? Хто пры цяжкіх хваробах без лекарскага мастацтва часта вяртае здароўе? Omnia nos Deis volnit habere per Mariam, заканчвае Св. Бернард. Усе свае ласкі для нас Бог засведчвае дзеля Марыі і праз Марыю.

Ці звернем мы болей увагі на акалічнасці смерці Дзевы Марыі, ці задумаемся над абставінамі яе ўспення, узнікае пытанне: што калі аб яе ўзвышэнні над усімі дачкамі Ізраілевымі не даведаліся б? Хто ва ўсім свеце падлягае праклёну смерці, быць не можа, каб пры развітанні Душы сваёй з целам не спазнаў тых страхаў, якія яму перашкаджалі і не адолеў тых хвароб, якія яго апанавалі. Але што датычыцца Дзевы Марыі, яна, як мы бачылі, ад згаданых наступстваў смерці была пазбаўлена. А таму хіба вы не прызнаеце таго, што яна ў час свайго ўходу не памерла, толькі спачыўшы целам сваім, перанеслася на Неба? Такім цудоўным прывілеем не надзяліў Бог нікога іншага. Але ці не годна гэта абранай Улюбёнай яго? Veni Spoufa mea. Як жа пасля такой салодкай смерці не будзем ёй пакланяцца ? Пакладзенае ў труну яе цела было вынята без аніякіх прыкметаў смерці, якая нявечыць і ў попел рассыпае асірацелыя набыткі найсвяцейшых душаў. Калі ж Яна, уваскрасаючая, выходзіла з палону труны, адразу атрымала хвалу свайго ўзвышэння, якая ўсе іншыя ўваскросшыя целы чакае. А калі з услаўленнем узята была на Неба, там заняла трон пасрэдніцтва паміж богам і людзьмі. Чуе Марыя ў салодкай смерці сваёй, як найчысцейшая Улюбёніца Бога, у хвалебным Успенні, як клапатлівая Збавіцеля Маці, з вуснаў Божых гэтыя словы: Veni Spoufa mea, veni coponaberis. А нам жа належыць, нягледзячы на розныя прычыны захапленне, шанаванне і давер выказваць непараўнальнай Маці Сына Божага. Амінь.



**Абраз Маці Божай Браслаўскай. Гравюра XIX ст.**

---

*Іна Канаховіч*

## Роздум пілігрыма

**Мы. Кола. Цемра навокал. Запальваем свечку... Святло жыцця. Шлях. Лужа, яшчэ адна лужа. Вецер. Прытуляю свечку да сябе. Закрываю рукой. Гарыць. Полымя трапечацца ў грудзях. Хвалюецца за гэты маленькі агеньчык, бо, здаецца, нясеш самае дарагое, што ёсць у цябе – святло жыцця. Сустракаюцца людзі. Смех. Здзіўленне. "Пагляздзі, як іх многа!" Яшчэ лужа. Вось пагас адзін агеньчык. Але ў тую ж хвіліну зноў заззяў, бо мы ідзем разам і нясем агульны агонь. Здалёк чуваць нейкі дзіўны шум. Рака. Гучна бурліць з крыніцы з жывой вадой. Гэта журчанне адзываецца недзе ў сэрцы, нібы рэха. Падыходжу бліжэй крок за крокам. Што робіцца? Адчуваю, як гэтая жывая вада, Божая Ласка, перапаўняе мяне. Энергія гэтай вады, што імчыцца па рацэ, б'ецца аб камяні і зносіць усё на сваім шляху, перадалася маёй крыві...**

**Зараз патрэбна неяк занесці гэта святло назад, да дому... Веру, што мы данясём... бо мы разам... разам з Богам...**

*Ветразь Надзеі. Выпуск 2. 2003 г.*

**(заканчэнне. Пач. у №7(20)**

## Як бацька скарб захаваў

Жылі людзі, сям'я, багата. У бацькі было двое сыноў, дачку выдаў. Ну і прыйшоў ўжо час бацьку паміраць. І вот ён трое сутак хадзіў так усё, дзе грошы можна схаваць, шукаў. А грошы насіў у торбачцы – золата было ў яго. А тутака і зяць, і два сыны пільнуюць, дзе ён грошы збірасцца схаваць. Грошай жа хочацца: можна тады і зямлі купіць, а стары дзе ўтаўчэць, дык і не найдзеш. І вот, калі ўсе разышліся, стары ўзяў торбачку і пайшоў, абапіраючыся на лясачку. І вот так дайшоў да асеці (дзе даўней збожжа малацілі). Ну і грошы там паклаў пад камень, а зяць праз аконца гэта ўгледзіў. І яшчэ стары сказаў:

– Паклаў я гэтыя грошы сваёй рукой і гэта толькі рука іх возьмець, з таго свету прыйду і забяру.

І вот так прыходзіць ён дамоў, лёг на пасцель і памёр.

Тады ўсе сабраліся і пайшлі да каменя, дзе стары грошы схаваў. Паспрабавалі ўзяць, але грошы не даюцца. Тады вырашылі прынясці сюды памерлага бацьку і ўзяць грошы яго рукой. І так і зрабілі, рукой пакойніка забралі грошы, прыйшлі дахаты і справілі пахароны.

Запісаў К.Шыдлоўскі ад Буёнка
Валянціна Вікенцьевіча, в. Лабуцеўцы.

* * *

## Пра бабку-павітуху

Жыла старушка такая і дужа яна любіла дзяцей бавіць. Пражыла яна скока, у хаце холадна, а жыла яна на футары. Ну прапаліла печ і ўзлезла пагрэцца. І раптам нехта стукаецца, яна злезла з печы.

А тут пад дзвярыма цыган просіцца:

– Адчыні, баба, дзверы, мая жонка тут ражаець, і мне бабка-павітуха нада.

Ну што ж, яна нікому не адказвала, падзелася, упруцілася, выйшла з хаты. І павёў цыган яе ў лес. У лесе цёпла, агонь гарыць, многа цыганят, усе голыя.

Тут бабка хуценька вады нагрэла, дзіцёначка адбабіла. І цыган кажыць:

- Я табе за гэта добра заплачу.

Ён зачэрпнуў жменю грошай і даў бабцы і кажыць:

– Сядай у воз, я цібе назад завязу.

Прывёз ён яе дамоў, у хаце зімна. Запаліла яна лямпу, і ёй падалося, што гэта цыган да яе ў сне прыхадзіў. Але ўзгадала, што ён даў ёй грошай. Дык яна як усунула руку ў карман, як выбрала пэлыя прыгаршні, але не золата, а бяросты скручанай. І давай Богу маліцца, што чарта бачыла. І давай суседзям расказваць.

Запісаў К.Шыдлоўскі ад Буёнка Валянціна
Вікенцьевіча, в. Лабуцеўцы.



**Куточак вёскі Лабуцеўцы**

* **Удакладненне**: надрукаваная ў №7(20) казка «Як пачарка жыла з мачахай» запісана ад Рэгіны Вікенцьеўны Выжыкоўскай

## Казка

Па дарозе шмат ездзіла абозаў, ездзілі купцы, многа людзей вандравала. І жыў тут адзін кузнец пры дарозе. Кузнец быў харошы, а пры ім два малатабойцы, кузня была добрая. І кузнец сільна харашо ўмеў каваць, калі ў каго калясо паломіцца, дык ён адразу і зробіць, от так ён і зарабляець.

Праз якое там урэмя прыязджаець цыган да іх конна і пытаецца:

– Ці можаце вы падкаваць каня?

– Канешне можам, усё зробім.

Глядзіць ён на яго, сядло ў яго харошае, конь добры, адзежа толькі благая.

– Ну, а скольki возьміце?

– Ну лічы так: падкова дармавая, работа тожа, будзеш плаціць толькі за гвоздзі. Першы дзве капейкі, другі – чатыры, і так усе астатнія.

А каваль кожны раз як на работу ісці, станіць перад іконай, памоліцца, а ў парозе вісеў у яго партрэт чарта, дык кожны раз каваль яму торк фічку пад нос і пайшоў. Ну вот зрабіў каваль работу, прайшло врэмя. У каваля жыў стары бацька і каваль любіў яго і паважаў. І тутака заняўся ён работай, а чарту надаела глядзець і надаела, што каваль торкаець яму фічкі. Злез чорт з партрэта і пайшоў. І прыходзіць да каваля ў кузню дзядок гадоў шэсьдзесят-семдзесят і кажыць:

– Вы ўсё можаце дзелаць, але не можаце перарабляць старых на маладых, а я магу вас навучыць, будзеце многа грошай зарабляць.

– Ну што ты, гэта не кузнечная работа, гэта толькі мудрацы могуць, – адказалі так яму ў кузні.

– Ды ну што вы! Зараз я вас навучу, вот глядзіце і слухаце. Спачатку прынясіце ў кузню бальшы кубел, у яго ўліце вёдзер дваццаць вады. Я зараз раздзенуся, вы ж бярыце мяне ў абцугі, бярыце мяхі і раздувайце агонь. Як зробіце, кідайце мяне туды.

– Дык ты ж згарыш.

– Ды не, – кажыць, – я амаладжусь, слухайце, я буду гаварыць, наскока нада грэць.

Ну і сталі яму грэць, ён спярша пасінеў, патом стаў краснець, удзержываець жару. І ўжо гэты чорт стаў чырвоны і кажыць:

– Ну, хутчэй бярыце мяне ў клешчы і кідайце ў ваду.

Схвацілі яго ўтрох і кінулі ў ваду, ён там можа з паўчаса шумеў, пішчэў і вылез з кубла ўжо малады хлопец гадоў на 25.

– Ну што, відзіце, які я стаў малады, дык вот будзеце болей зарабляць.

Тут каваль рашыў бацьку адмаладзіць.

– Тата, пайшлі ў кузню.

Прывёў у кузню і стаў раздзяваць скарэй. Бацька стары крычыць, упіраецца, але ўсё ж ўпіхнулі яго ў агонь. Стары крычыць, а пасля змоўк, цела начало ўжо сінець, страляць. А чорт круціцца вакол кузні і думаець, вот ужо падвёў дык падвёў. А там асталіся толькі костачкі. Чорт кажыць, каб кідалі іх у ваду. Сабралі костачкі, кінулі ў ваду, а яны засіпелі і патонулі.

Вот так кажуць: Богу маліся, але і на чорта не паракай.

Запісаў К.Шыдлоўскі ад Буёнка Валянціна
Вікенцьевіча, в. Лабуцеўцы.

# Фестываль у Воліне

Волін – невялікі гарадок на паўночным захадзе Польшчы, непадалёку ад горада Шчэціна, ад якога рукой падаць да Германіі. Калісьці ў гэтых мясцінах існавала паселішча вікінгаў. Цяпер гарадок вядомы вікінгаўскімі фестывалямі. У гэтым годзе запрашэнне на чарговы дзевяты фестываль атрымалі сябры Браслаўскага клуба аматараў жывой археалогіі. У клубе прадстаўляецца пераважна культура славян-крывічоў і, здавалася б, – якое ён мае дачыненне да вікінгаў? Справа ў тым, што арганізатары імкнуцца, каб на фестывалі былі прадстаўлены рамёствы і заняткі этнасаў, з якімі актыўна кантактавалі вікінгі, – славянаў, балтаў, германцаў. Вось пагэтаму ў Воліне прапісаліся ўдзельнікі з Польшчы, госці з Літвы, Скандынавіі, Беларусі, Германіі, Славакіі, Расіі і інш. Беларусь была прадстаўлена дэлегацыяй з Браслава і гуртом сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса" (г.Мінск).



Ад Браслава да Воліна 1,5 тысячы кіламетраў. Дарога да фестываля – гэта падарожжа праз усю Беларусь і Польшчу, якое само па сабе з'яўляецца прыкметнай падзеяй. Фестывальная тэрыторыя – востраў побач з мястэчкам, увесь



застаўлены палаткамі-рэканструкцыямі вікінгаў-ваяроў, пасяленнямі рамеснікаў. Для Браслаўскай дэлегацыі гаспадары падрыхтавалі грунтоўны павільён, у якім змясціўся ўвесь комплекс "Паселішча крывічоў». Павільён аказаўся настолькі ўтульным, што стаў месцам не толькі працы, але і начовак, хаця ў гарадку былі падрыхтаваны спецыяльныя гасцявыя пакоі. Фестывальная тэрыторыя ўначы выглядала яшчэ больш цікава – усюды каля вогнішчаў віравала жыццё, чуліся спевы, рыхтавалася ежа. Нібыта, зрабіўшы падарожжа праз прастору і час, атабарыўся тут на кароткі час сапраўдны вікінгаўска-варажскі лагер.

"Паселішча крывічоў" дэманстравала ганчарства, разьбярства, даўнюю кухню, прадзенне, пляценне паясоў, вырабы з бяросты, пісьменства. Час ад часу запальвалі "жывы агонь". Цікаўных заўсёды было шмат. Знайшлося шмат землякоў з Віленшчыны і нават з самой Браслаўшчыны: былыя нямецкія землі засялялі пасля вайны людзьмі з "крэсаў".

Фестываль запомніцца новымі знаёмствамі, кантактамі з калегамі з розных краін, цікавасцю побыту і падарожжа.

Тры дні такой дзеі – гэта ўсяго толькі імгненне, але гэтае імгненне назаўсёды застанецца ў памяці.

<u>*Фестывальны Клерк*</u>



*Юбілеі*

# УЛАДЗІМЕРУ АРЛОВУ - 50

***Уладзімір Арлоў нарадзіўся 25 жніўня 1953 года ў Полацку. Ён з'яўляецца адным з самых папулярных беларускіх пісьменнікаў, апублікаваў каля 30 кніг прозы, эсэ, гістарычных нарысаў, паэзіі. Сярод іх: "Добры дзень, мая Шыпшына", "Рандэву на манеўрах", "Адкуль наш род", "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (сумесна з Г.Сагановічам)", "Ордэн Белай Мышы", "Мой радавод да пятага калена", "Адкусі галаву вароне". Разам з мастаком Зміцерам Герасімовічам У.Арлоў выдаў шыкоўнае, еўрапейскага ўзроўню, ілюстраванае выданне "Краіна Беларусь". Творы Уладзіміра Арлова перакладзены на 25 моў. Пісьменнік займае актыўную грамадскую пазіцыю.***



***На Браслаўшчыне У.Арлоў мае шмат прыхільнікаў свайго таленту, знаёмых і сяброў. Разам з бардам Зміцерам Бартосікам ён меў цёплую запамінальную сустрэчу з чытачамі Браслаўшчыны. Музей зберагае падборку кніг пісьменніка з даравальнымі подпісамі. Адзін з надпісаў мае такія словы: "Браслаўскаму гістарычнаму музею з вераю ў тое, што ягоныя супрацоўнікі і наведвальнікі ніколі не забудуць, адкуль наш род". Дарэчы, зараз гэтыя кнігі з аўтографамі экспануюцца ў памяшканні гістарычнага музея на выставе аўтографаў. Музей зберагае і ліст У.Арлова, напісаны ад імя вядомага гісторыка М.Улашчыка, па справе пошукаў Браслаўскага архіва, якой музей займаўся напрыканцы 80-х гадоў***

***Супрацоўнікі музея, усе прыхільнікі творчасці Уладзіміра Арлова шчыра віншуюць юбіляра і зычаць яму моцнага здароўя, творчага плёну, новых сустрэч на Браслаўшчыне.***

***Увазе чытача прапануем адзін з выдатных твораў пісьменніка – эсэ "Незалежнасць – гэта...", напісаны напрадвесні абвяшчэння суверэнітэта Беларусі. Часам гэты твор называюць "Ойча наш, Беларускага Адраджэння".***

***Слова Уладзіміру Арлову...***

## Незалежнасьць – гэта...

Незалежнасьць – гэта калі ты зьявіўся на сьвет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсьць аднаразовыя шпрыцы й пялюшкі.

Незалежнасьць – гэта калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумэнт, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумэнт, а ня выцягае са стала "Справочннк личных имен народов СССР" і ня будзе, размахваючы ім, істэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблем назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам – ня можа, бо такога ймя проста не йснуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое имя Григорий).

Незалежнасьць – гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая табе падабалася ў дзіцячым садзе, – на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, – на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, – на ягонай). Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме ня трэба будзе ўсё лета зьбіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія ня тое, каб не хацелі вучыць сваіх дзяцей так, як твае тата й мама, а проста ніколі пра гэта ня думалі, бо вырасьлі пры інтэрнацыяналізме. І гэтыя заявы ня трэба будзе губляць тры разы дырэктару й два – сакратарцы, і ў першы верасьнёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што "год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы", а прыйшоўшы ў сваю клясу, не даведаесься, што дзякуючы няўхільнаму клопату партыі і ўраду, у вас на ўсю клясу толькі адзін лемантар і дзьве "матэматыкі" на роднай мове.

Незалежнасьць – гэта, калі твая дружына ня будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мясьнікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мясьнікоў.

Незалежнасьць – гэта, калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскару, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе й запытае, што значыць слова "імавернасьць", і ты па-француску растлумачыш яму.

Незалежнасьць – гэта, калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежныя горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву й прыбіраць тэрыторыю "вот отсюда и до обеда". У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе "бульбашом", а твайго сябра – "черножопым" за тое, што вы думаеце й гаворыце ў сьне па-свойму, і выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі ня будуць у працэсе гэтай падрыхтоўкі рабіць табе "велосипед", і табе ніколі не загадаюць гастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

Незалежнасьць – гэта, калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выхадныя ў Вену, і ты з чыстым сумленьнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'яце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашаю вандроўкаю ніхто ня будзе высьвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык зь якой мэтай.

Незалежнасьць – гэта, калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты йдзеш на могілкі й ведаеш, што паставіш там сьвечку й пакладзеш кветкі, а ня станеш удзельнікам выпрабаваньня балёнчыкаў з нэрвова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

Незалежнасьць – гэта, калі твой сын прынёс са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі, а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдзкую бітву, якая ўратавала твой народ ад сьмерці, і кажуць праўду пра ўладу, што расстраляла твайго дзеда й задушыла голадам тваю бабулю.

Незалежнасьць – гэта, калі да цябе завітае сьпявак зь Нью-Ёрку, і ты вып'еш зь ім добрую чарку вішнёўкі, і пасьля ветлівыя дзядзькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі й каго пры гэтым лаялі.

Незалежнасьць – гэта, калі ты пазбаўлены магчымасьці пачуць, як твой прэзыдэнт вучыць з экрану суайчыньнікаў: "Хто как хаціт, той так і гаварыт", бо твой прэзыдэнт – чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае.

Незалежнасьць – гэта, калі з тэлеперадач і газэт раптам зьнікаюць лісты нястомна-таямнічых вэтэранаў і вусьцішныя паведамленьні пра нацыяналістаў і экстрэмістаў з народных франтоў, якія нават уначы ня сьпяць, а распальваюць паміж табой, Алёшам і Мішам, тату якога звалі Ісакам, а таксама Гражынаю, якая даўно ўжо твая жонка, міжнацыянальную варожасьць, каб учыніць сярод вас крывавую разьню й пусьціць пад адхон цягнік перабудовы.

Незалежнасьць – гэта, калі велізарныя аўта-фуры з надпісам "Центровывоз" (ці бачыў ты хоць раз такія фуры, дзе было б напісана "Центроввоз"?) падрулююць не да чужых, а да нашых крамаў.

Незалежнасьць – гэта, калі ніхто ня страшыць цябе, што твой народ ня зможа выжыць безь вялікага старэйшага брата, бо ня мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гарапашных галяндцаў ці бэльгійцаў, якія ня маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

Незалежнасьць – гэта, калі раптам высьветліцца, што разумныя людзі ёсьць і ў нас, і калі – крый Божа! – выбухне завод ці прычыніцца якое іншае ліха, ня трэба будзе чакаць, пакуль прыедзе камісія з маскоўскіх разумнікаў.

Незалежнасьць – гэта, калі на Божай пасьцелі ведаеш, што пасьля таго, як ты памяняеш гэты сьвет на лепшы, на месцы царквы ці касьцёла, дзе цябе хрысьцілі і дзе ты вянчаўся, ня выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басэйн імя XVIII зьезду КПСС, а могілкі, дзе будуць спачываць твае косьці, не зьнясуць і не ператвораць у закіданы пустымі пляшкамі парк культуры й адпачынку імя таварыша Гарбачова або імя таварыша Лігачова.

Незалежнасьць – гэта...

Незалежнасьць – гэта, калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо йначай проста ня варта жыць.

**Люты, 1990 г.**

## *Выдавецкія навіны*

У Мінскім выдавецтве "Чатыры чвэрці" выйшаў альбом "**Жыццё ў творчасці. Паплаўскія. Георгі, Наталля, Кацярына. Жывапіс. Графіка. Ілюстрацыі.**" Сям'я Паплаўскіх вельмі цесна звязана з Браслаўшчынай. На працягу дзесяцігоддзяў мастакі праводзілі летні час у нашым азёрным краі, мелі каля вёскі Маскавічы лецішча, якое з'яўлялася і часовай творчай майстэрняй. Браслаўшчына адлюстравана ў многіх працах Паплаўскіх.

Георгій Паплаўскі – Народны мастак Беларусі, акадэмік, лаўрэат шэрагу прэмій, у тым ліку дзяржаўнай (2003 г.). У мастака ёсць цэлыя цыклы прац, прысвечаных Браслаўшчыне: "Браслаўшчына – край азёрны", "Браслаўскі альбом", "Браслаўскі лён". Як адзначаецца ў альбоме, для Георгія Паплаўскага Браслаў - "сімвал ціхай гавані, да якой вяртаюцца пасля плавання па бурлівых морах. Падарожнік Паплаўскі ў гэтай цішыні і знешняй нерухомасці бачыць усю яе незвычайнасць і сціплую душэўную прыгажосць". У альбоме шмат ілюстрацый на браслаўскія тэмы: "Ігнат Брылевіч", "Лодкі па снезе", "Царква ў Мяжанах", "Чарот", "Ліпень на Браслаўшчыне", "Чайкі над возерам" і інш.



**Г.Паплаўскі. Царква ў Мяжанах.**

Наталля Паплаўская неаднойчы адзначалася за творчыя поспехі ў ілюстраванні кніг. Наталля стварыла цыклы цудоўных ілюстрацый да беларускіх народных казак, да казак А.Лінгрэн, В.Гаўфа, Г.Андэрсена, казак народаў свету. У мастачкі шмат прац, звязаных і з Браслаўшчынай. У альбом увайшлі: "Гарадок у снезе", працы з цыкла "Браслаўскія матывы" і інш.

Кацярына Паплаўская – дачка Георгія і Наталлі, прафесійная мастачка, выкладчыца Мінскай мастацкай школы, працуе ў некалькіх напрамках. Творчае жыццё пачынала з пейзажных замалёвак. Аўтар серыі прац "Браслаўскія азёры".

Наталля і Георгій Паплаўскія - шчырыя сябры Браслаўшчыны, падтрымліваюць цесныя сувязі з музейным аб'яднаннем. У Браславе праходзіла некалькі выстаў мастакоў, апошняя у мінулым годзе. Музей мае калекцыю прац Паплаўскіх. Мастакі перадалі на захаванне ў Браслаў і асобнік альбома. На тытульнай старонцы выдання даравальны надпіс: "Браслаўскаму краязнаўчаму музею і яго слаўнаму калектыву з пачуццём захаплення і ўдзячнасці за вашу самаахвярную працу ў святым пошуку культурнай спадчыны роднага края. Няхай жа аберагае вас Бог і ўзбагачае вашыя фонды.".



**Г.Паплаўскі. Замкавая Гара.**

14 жніўня – праваслаўнае свята Макавей. Асаблівае значэнне гэта свята мае для вернікаў Богінскага прыхода. Непадалёку ад могілак знаходзіцца крыніца пад назвай "Макавей", якая славіцца гаючай вадой. Гэта жыватворная крыніца здаўна была папулярнай сярод навакольных жыхароў. Яна згадваецца ў пісьмовых крыніцах пра Богіна. На Макавей каля крыніцы адбывалася набажэнства і асвячэнне вады. Крыніца была ўпрыгожана кветкамі і вяночкамі.

Богінскі Макавей – прыклад культавай крыніцы, якіх вельмі мала ў Беларусі.

## ПОМНІКІ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Стараверская царква ў в.Кір[illegible]

## *Гартаючы старыя газеты*

### ЛІТОЎСКІ АЭРАПЛАН НАД БРАСЛАЎСКІМ ПАВЕТАМ

Недзе а 6 гадзіне 20 хвілін над мястэчкам Дукшты праляцелі два аэрапланы, якія кіраваліся ад літоўскага боку да Браслава. Апараты ляцелі на вышыні прыблізна 400 метраў. Мяркуючы па апазнавальных знаках – чорнага колеру выцягнуты чатырохкутнік з белым кругам пасярэдзіне – гэта хутчэй за ўсё былі літоўскія аэрапланы.

"Kurjer Wileński", 1928 г., 19 чэрвеня

### ОПСАЎСКАЯ ХРОНІКА

Урад выдаткаваў сродкі на адбудову касцёла ў Опсе. Міністэрства веравызнанняў і публічнай асветы з падачы віленскага ваяводы асігнавала 5 тыс. злотых на будаўнічыя працы пасля пажару.

"Kurjer Wileński", 1928 г., 28 верасня

### СХОД СТАРАВЕРАЎ

У в.Бусўшчына Перабродскай гміны адбыўся сход чальцоў стараверскай абшчыны з мэтай абрання новага "настаўніка" замест старога Каліны Фёдарава. Быў абраны Нікан Мядзведзеў, які выконваў падобныя абавязкі ў в.Булевічы Плiскай гміны.

"Kurjer Wileński", 1928 г., 14 снежня

Браслаў, Ковенскай губ. Дзякуючы старанням тутэйшага сялянства і інтэлегенцыі ў Браславе адкрылася даўно жаданая мясцовая школа (гарадское вучылішча). Сёлета вучэнне ідзець толькі ў першай клясе, але з кожным годам будзе адкрывацца па адной клясе да чатырох.

*Беларус. 30 кастрычніка 1914 г.*

* * *

М.Слабодка, Ковенскай губ. У пачатку ліпеня спаткало нас вельмі вялікае ліхчасце. Раносенька (на трэцяй гадзіне рана) начаўся пажар, каторы захапіў адразу шмат хат. Праз тры гадзіны згарэла 26 гаспадарскіх жылых дамоў і больш 20 другіх будынкаў. Трынаць сем'яў асталося бяз страхі над галавой. Кажуць, што пажар начаўся праз бабскую неасцярожнасць з агнём.

Слободскі Пр.

*Беларус, 25 ліпеня 1914 г.*

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)